# 1 МАЯ — СВЯТА ПРАЦЫ!



ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1511) ГОД XXX БЕЛАСТОК 28 КРАСАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.

## ВАЖНАЕ ЗВЯНО

Адным са звенняў грамадска-палітычнага краявіду ў нашай краіне з'яўляецца Дэмакратычнае старонніцтва. На Беласточчыне дзейнічае яно ўжо 40 гадоў. 6 сакавіка 1945 года ў Ломжы (якая тады была павятовым цэнтрам Беластоцкага ваяводства) быў створаны Часовы арганізацыйны камітэт Дэмакратычнага старонніцтва.

Быў гэта яшчэ гарачы ваенны час. На франтах ішло змаганне за вызваленне краіны ад гітлераўскіх захопнікаў.

Але Беласточчына была ўжо свабодная. І тут пачыналася барацьба за палітычныя ўплывы. Ад 1 студзеня 1945 года дзейнічаў у Любліне Часовы ўрад Рэчыпаспалітай Польскай, які 28 чэрвеня 1945 года пераварыўся ў Часовы ўрад нацыянальнага адзінства, прызнаны ўсімі ўрадамі вялікай антыфашысцкай кааліцыі. Нягледзячы на ўсё гэта, уплывы эміграцыйнага лонданскага ўрада на Беласточчыне аставаліся ўсё яшчэ вельмі моцнымі. Трэба было вялікай адвагі і веры ў перамогу дэмакратычнага ладу ў нашай краіне, каб у гэтай вострай палітычнай барацьбе вызначыць сабе месца на баку гэтых сіл, якія рашылі змагацца за Польшчу новага, сацыялістычнага ладу; за Польшчу без фабрыкантаў і памешчыкаў, за Польшчу, якая ішла б у сваю новую гісторыю ў цеснай садружнасці з яе ўсходнім суседам, і, урэшце, за Польшчу з граніцамі на Одры і Нысе Лужыцкай, ды з шырокім доступам да Балтыйскага мора.

Арганізатары Дэмакратычнага старонніцтва на Беласточчыне якраз і прынялі гэтую платформу прагрэсіўных пераўтварэнняў у нашай краіне. 19 ліпеня 1945 года было заснавана ў Беластоку Часовае ваяводскае ўпраўленне Дэмакратычнага старонніцтва, якое ўзначальвалі: Вітальд Венцлік, Яўгенія Красоўская, Вацлаў Бялкоўскі і Антон Тапалевіч. Старшынёю стаў Вітальд Венцлік, юрыст па адукацыі, першы прэзідэнт вызваленага горада Беластока і пасол Краёвай рады нарадовай, дзе якраз прадстаўляў ён сваю партыю. Вітальд Венцлік і цяпер жыве ў Беластоку ды з'яўляецца актыўным дзеячом сваёй партыі. Ён — ганаровы старшыня Ваяводскага камітэта Дэмакратычнага старонніцтва.

— Я быў таксама і пaслом у першы ўстаноўчы Сейм Польскай Рэчыпаспалітай, выбраны 19 студзеня 1947 года, — гаворыць гэты



Вітальд Венцлік — першы старшыня Часовага ваяводскага ўпраўлення Дэмакратычнага старонніцтва ў Беластоку.

вельмі сімпатычны і жыццерадасны чалавек.

Добрымі пачынамі для Беласточчыны запісаліся таксама і шмат якія іншыя дзеячы Дэмакратычнага старонніцтва. Для прыкладу: Казімір Галіцкі. Звычайны рамеснік, шапачнік, майстэрня якога знаходзілася на Рынку Касцюшкі ў Беластоку. Быў гэта чалавек вялікага сэрца, вельмі чуллівы на ўсялякую крыўду і несправядлівасць. Быў паслом Сейма. Адсюль, з Беласточчыны, выводзіцца таксама і Крысціна Маршалак-Млынчык, даўнейшая журналістка „Газеты Беластоцкай" і заснавальніца ды галоўны рэдактар штомесячніка „Кантрасты", пасол Сейма ад 1965 г. Цяпер Беластоцкую зямлю ў Сейме ад СД прадстаўляе Здзіслаў Пукорскі — адзін з дырэктараў прадпрыемства „Рух". Віктар Ежы Слезак, намеснік старшыні Ваяводскага камітэта СД з'яўляецца

(Працяг на стар. 2)

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

## Супрацоўніцтва

Цеснае супрацоўніцтва Польшчы з Савецкім Саюзам відаць і на Беласточчыне. Прыкладам можа служыць пабудаваны ў Беластоку пры дапамозе СССР баваўняны камбінат „Фасты", цалкавіта абсталяваны савецкімі машынамі.

Дзякуючы прыгранічнаму палажэнню Беласточчыны развілося супрацоўніцтва з найбліжэйшымі суседзямі — з Гродзенскай вобласцю БССР і Літоўскай ССР.

Узаемасувязі пачалі развівацца шырэй у гадах 1959 —64. Былі апрацаваны двухгадовыя планы ўзаемаабмену дэлегацый, спецыялістаў з розных галін грамадскага і гаспадарчага жыцця, а таксама пачаўся абмен тавараў. Найбольш шырокі дыяпазон узаемаабмену меў месца ў гадах 1978-79.

Прыгранічнае супрацоўніцтва праяўлялася ў абмене дэлегацый афіцыйных ваяводскіх улад з нагоды дзяржаўных свят, абмен спецыялістаў, рабочых брыгад, абмен навукова-тэхнічны, культурны, спартыўны, лектарскі — паміж партыйнымі інстанцыямі і таварыствамі дружбы. Паспяхова развівалася супрацоўніцтва паміж паасобнымі рэдакцыямі газет, радыё і тэлебачання.

У рамках супрацоўніцтва ў спомненым перыядзе тэрыторыю СССР наведала 473 асобы ў 137 групах, а з СССР наведала Беласточчыну 486 чалавек, таксама ў 137 групах.

Абмен інжынерна-тэхнічных работнікаў і прафесіянальна-рабочых брыгад спрыяў прымяненню шэрагу новых арганізацыйна-тэхнічных развязак на прадпрыемствах Беластоцкага ваяводства.

У рамках папулярызацыі дасягненняў у галіне навукі, сталы абмен навуковых работнікаў з навуковымі ўстановамі ў СССР вялі Медыцынская акадэмія і Філіял Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. У гэты час ПГР Ігнаткі на аснове ўзаемаабмену даставіў на Гродзеншчыну фруктовыя дрэўцы для стварэння саду на некалькіх дзесятках гектараў, а ўзамен атрымаў патрэбныя машыны — мікробус, трактары і сельскагаспадарчыя прылады.

Ваяводская агародніннная спулдзельня ў Беластоку выслала ў Гродна і Літву фрукты, а ўзамен атрымала дэфіцытныя ў той час вілы, гвоздзі, шклю і іншае.

ГС у Беластоку вёў двухбаковы таварны абмен, вартасць якога ў 1978 годзе дасягнула 277,5 тысяч рублёў.

ВСС у Беластоку ў рамках супрацоўніцтва арганізаваў у Каўнасе і Гродне рэстараны „Беласток", а ўзамен у Беластоку былі абсталяваны рэстараны „Гродна" і „Кавенская". На базе гэтых рэстаранаў вёўся адукацыйны абмен кухараў і афіцыянтаў, а таксама абмен неабходных тавараў для нацыянальных кухняў.

М. Хмялеўскі

## ТОСТ ЗА ДРУЖБУ

Калі мы толькі ўзнімем рукі —
Мільёны белых,
жоўтых,
чорных, —
Падняць мы зможам нават сонца
Вышэй усіх вяршыняў горных.

Калі ж свае далоні злучым —
Жывым вянком мы апаяшам,
Вянком рук чорных,
белых,
жоўтых,
Планету зраненую нашу.

Калі ж мы кулакі апусцім —
Мільёны жоўтых,
чорных,
белых, —
Спадуць апошнія кайданы,
Гром страсяне сусветам цэлым.

Таму, браты, напоўнім кубкі
Віном кіпучым, ясным, зорным
І ўзнімем высака за дружбу
Рук нашых белых,
жоўтых,
чорных!

Максім Танк

**НА МЯЖЫ**

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (VII)

Ужо мы сказалі, што ва ўстановах і арганізацыях ўсходняй Беласточчыны працуе маса беларусаў. Яны — войты, яны сакратары партыйных арганізацый, яны дырэктары школ, яны каменданты міліцыі, яны шэфы гмінных цэнтраў культуры, яны духоўныя і г.д. і т.п.

Народная дзяржава ствараe роўныя магчымасці і шанцы для ўсіх нацыянальнасцей і рэгіёнаў. Ніколі ў Народнай Польшчы не было ні інструкцыі, ні дырэктывы, ні пастановы, якая гаварыла б, што беларусы не павінны дзейнічаць у карысць сваёй нацыянальнай меншасці. Якраз наадварот. Вось, напрыклад, Ваяводская нарадовая рада ў Беластоку прыняла вельмі змястоўную пастанову, якая датычыць працы дзяржаўных устаноў у карысць культуры беларускай нацыянальнай меншасці ва ўсходняй Беласточчыне. На жаль, гэтая пастанова рэалізуецца толькі ў нязначнай ступені. Па якой прычыне? Па той, што многія беларусы — войты, беларусы — сакратары палітычных арганізацый, беларусы — маладзёжныя дзеячы, беларусы — настаўнікі, беларусы — чыноўнікі, або ўвогуле не ўзялі ў рукі гэтай пастановы або ўзялі, патрымалі і адлажылі ў архіў. Чаму? Таму, што большасць з нас, беларусаў, кіруецца ў жыцці мізэрнай філасофіяй, каб нас не заўважылі, каб чаго дрэннага не падумалі, каб не ўпісалі ў нейкія рэестры. А хто ведае, можа зменіцца дзяржаўная арыентацыя ў адносінах да нацыянальнасцей і тады з чалавека зробяць ахвярнага казла?.. Дык навошта мне гэта беларускасць!

Так думае часта новастворaны гісторыяй беларус-інтэлігент, а ў істоце чалавек з душою мешчаніна, які гатоў на ўсё, але не гатовы да элементарнай дзейнасці ў карысць той нацыі, дзякуючы якой існуе на свеце.

А, можа, я ўвогуле не маю рацыі, можа, усё сказанае мною — чыстая містыфікацыя? Можа, сапраўды беларусы-чыноўнікі, беларусы-дзеячы, беларусы-дырэктары, беларусы-духоўныя ў штодзённай дзейнасці, праводзячы такія ці іншыя пасяджэнні, нарады, сустрэчы, пачынаюць свае выступленні ад слоў: „Мы беларусы, свабодныя грамадзяне Народнай Польшчы, павінны заўсёды дзейнічаць у напрамку развіцця беларускай мовы і культуры“; або: „Народная Польшча стварыла нам, беларусам, спрыяльныя ўмовы для развіцця нашай мовы і культуры“; або: „Жывем у краіне, у якой усе нацыянальнасці карыстаюцца з аднолькавых правоў. Давайце падумаем, як гэтыя спрыяльныя ўмовы выкарыстаць для развіцця беларускай культуры і мовы“; або: „Дарагія парафіяне, наша мова таксама мілая Богу, як усякія другія мовы“...

А можа, гавораць неяк інакш, але ў гэтым жа духу. Калі б я, дарагія чытачы, атрымаў ад вас інфармацыі на гэту тэму, інфармацыі, якія апраўвяргалі б тое, што я сказаў, інфармацыі, якія сведчаць аб развіцці беларускай культуры, свядомасці, дык быў бы я найшчаслівейшым чалавекам на свеце.

Думаю, аднак, што той-сёй можа мяне аблаяць, як гэта ўжо бывала, але, праўдападобна, не прывядзе замнога пераканаўчых фактаў, якія сведчылі б аб тым, што шанцы, створаныя Народнай Польшчай у галіне раўнапраўнасці і эмансіпацыі ўсіх нацыянальнасцей, поўнасцю выкарыстоўваюцца намі, беларусамі. І пакуль гэтага не робім, можам мець прэтэнзіі перш за ўсё да саміх сябе.

**Алесь Барскі**

**ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ**

### ДЛЯ ЗДАРОЎЯ ВЯСКОЎЦАЎ

Адна з буйнейшых у Мінскай вобласці паліклінік пабудавана ў гарадскім пасёлку Крупкі. Штодзённа ў ёй змогуць атрымаць кансультацыі і лячэнне да 400 пацыентаў. Тут ствараецца бальнічны комплекс. Сёлета будзе здадзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін корпус са стацыянарам на 220 ложкаў.

У Мінскай вобласці распрацавана доўгатэрміновая праграма будаўніцтва і ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы медыцынскіх і аздараўленчых цэнтраў. На яе ажыццяўленне дзяржава выдзеліла ў адзінаццатай пяцігодцы амаль 50 мільёнаў рублёў — у два разы больш, чым у папярэдняй. Нямала бальніц, паліклінік, амбулаторый узводзіцца на сродкі калгасаў, саўгасаў і прамысловых прадпрыемстваў.

Асобае месца ў праграме адводзіцца прафілактыцы захворванняў: плануецца стварэнне зон адпачынку, будаўніцтва спартыўных пляцовак і залаў.

### ЭКАЛОГІЯ ПЛЮС ЭКАНОМІЯ

Дзесяткі тон вельмі каштоўнай хімічнай сыравіны здабыла за год са сцёкавых вод устаноўка, якая дзейнічае ў гродзенскім аб'яднанні „Азот“. Ачышчаная вада цяпер накіроўваецца ў цэхі для паўторнага скарыстання.

Такая тэхналогія прапанавана ў Беларускім універсітэце, дзе распрацоўваюцца спосабы абясшкоджвання адпрацаваных вод цэлюлозна-папяровых і хімічных камбінатаў. Вялікія надзеі вучоныя звязваюць з радыяцыйнай апрацоўкай сцёкаў. Устаноўлена, што пад дзеяннем паскораных электронаў і гама-выпраменьвання разбураюцца ядавітыя і арганічныя рэчывы, гінуць хваробатворныя мікраарганізмы, хутчэй асаджаюцца ўзважаныя часцінкі. Даследчыкі праверылі на практыцы разліковыя рэжымы апраменьвання. Вынікі паказалі, што новы спосаб не ўяўляе небяспекі для чалавека. Затраты на яго дастаткова нізкія — некалькі капеек на кубаметр вады.

(Працяг са стар. 1)

# ВАЖНАЕ ЗВЯНО

аднaчасова адным з віцэ-ваяводаў у Беластоку.

Гэтая партыя мае зараз на Беласточчыне (у цяперашніх яе межах) дакладна 2005 членаў (стан у сакавіку 1985 г.). Найбольш іх у Беластоку, бо звыш 1200, затым у Сямянічах (больш ста), у Бельску (амаль сто), у Гайнаўцы (60) і пакрысе ва ўсіх іншых гарадах і пасёлках Беластоцкага ваяводства.

Базай для дзейнасці Дэмакратычнага стараніцтва з'яўляецца асяроддзе рамеснікаў, дробных уласнікаў прыватных майстэрняў і крамаў. Ахвотна ў СД уступаюць таксама некаторыя настаўнікі, лекары, юрысты, працаўнікі навукі, якія хочуць сваю грамадскую і палітычную актыўнасць праявіць у змаганні за ажыццяўленне гуманных прынцыпаў сацыялізму.

— Сферай уплываў нашай партыі з'яўляецца рамясло, дробная прыватная ўласнасць і прыватны гандаль, — гаварыў старшыня Ваяводскага камітэта СД у Беластоку Здзіслаў Куммер у час прэс-канферэнцыі, скліканай 27 сакавіка г.г.

Найбольш гаварылася тады менавіта аб развіцці рамясла на Беласточчыне. Старшыня Рамесніцкай ізбы ў Беластоку, Вітальд Рагоўскі, паінфармаваў нас, што зараз у Беластоцкім ваяводстве дзейнічае звыш 13 тысяч рамесніцкіх майстэрняў прыватнага і спулдзельчага тыпу, тавары і паслугі якіх за мінулы год склалі звыш 10 мільярдаў злотых. У рамеснікаў засвойваюць прафесію 3 тысячы вучняў. Гэта крыху замала. Рамеснікі заняліся таксама прадукцыяй прылад і запасных частак, неабходных для сялян.

Дзякуючы намаганням Дэмакратычнага стараніцтва Сейм нядаўна прыняў пастанову аб рамясле і паслугах, якая гарантуе трывалае месца гаспадарчай актыўнасці гэтага тыпу ў эканамічнай сістэме Польшчы.

Партыйная арганізацыя СД актыўна ўключаецца ў святкаванні і свайго саракагоддзя, і саракагоддзя вялікай перамогі над фашызмам. Запланаваны шматлікія мерапрыемствы. Першая з іх — ужо 3 мая. Гэты дзень з'яўляецца партыйным святам СД. 18 ліпеня — у гонар 40-ой гадавіны заснавання Часовага ваяводскага ўпраўлення СД адбудзецца ў Беластоку ўрачыстае пасяджэнне.

Дэмакратычнае стараніцтва па ліку сваіх членаў з'яўляецца найменшай партыяй у Беластоцкім ваяводстве. Але без удзелу гэтай партыі, без яе апініі і падтрымкі не вырашаецца ані адна важная для ўсіх грамадзян Беласточчыны палітычная ці грамадская або і эканамічная праблема. І гэтым чынам на практыцы ажыццяўляецца прынцып кааліцыйнага метада выконвання ўлады.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

**НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН**

### РАЎНАПРАЎЕ НА ПАПЕРЫ

Жанчыны Вялікабрытаніі ўсё яшчэ атрымліваюць за сваю работу напалову менш, чым мужчыны, нягледзячы на тое, што закон аб роўнай аплаце за роўную працу дзейнічае ўжо дзесяць гадоў.

Адна з істотных перашкод на шляху ажыццяўлення прынцыпу роўнай аплаты хаваецца ў сваім заканадаўчым акце, дзе размова ідзе аб аднолькавай рабоце, якую выконвалі б мужчыны і жанчыны. Але многія жанчыны заняты на так званых работах „толькі для жанчын“, і ўсялякія параўнанні губляюць тут сэнс.

Раўнапраўе ў Вялікабрытаніі носіць даволі „выбарчы“ характар, нягледзячы на тое, што з 1975 года існуе ўрадавая камісія, прызваная кантраляваць выкананне палажэнняў заканадаўства аб раўнапраўі. Гэта камісія ўстанавіла, напрыклад, што ў абследаванай ёю кампаніі, якая на словах прытрымліваецца прынцыпу роўных магчымасцей, сярод 506 менеджэраў, якія там працуюць, толькі дзве жанчыны. Камісія прыйшла да вываду, што жанчыны ўсё яшчэ слаба прадстаўлены ў грамадскім жыцці: аднолькава, як у выбарчых органах, так і на адміністрацыйных пасадах“.

Сярод вучняў у прамысловасці толькі чатыры працэнты дзяўчат, а прынятыя на работу юнакі маюць у тры разы больш магчымасцей атрымаць кваліфікацыю. Сярод прадстаўнікоў некаторых інжынерных спецыяльнасцей — такіх, якія патрабуюць найбольш высокай кваліфікацыі, — жанчын няма наогул.

Не так даўно ў газеце „Гардзіян“ член брытанскага і еўрапейскага парламента Барбара Кастл пісала аб становішчы жанчын у палітычным, эканамічным і грамадскім жыцці. Яна знайшла мала аргументаў для ўрачыстасці. „Нямногія жанчыны, ды і то на крылах удачы, дасягнулі таго, чаго яны хацелі, — піша яна, — у цэлым жа іх да гэтага часу не цэняць па годнасці, абмяжоўваюць сферу, дзе яны маглі б прыкласці сілы, і іх больш шчаслівыя сёстры не ў стане дапамагчы ім. У чымсьці мы нават адступаем. Сёння ў палаце абшчын толькі 23 жанчыны, на шэсць менш, чым у 1964 годзе, калі колькасць іх была самай вялікай. І да гэтай пары як выключэнне з правіла ўспрымаецца жанчына, якая займае высокі пост у прамысловасці. З 50 членаў генеральнага савета Усеагульнага кангрэса трэдюніёнаў толькі шэсць — жанчыны. Палітыка ж, якую праводзіць першая жанчына на месцы прэм'ер-міністра, толькі ўскладняе становішча. І справа не ў тым, што яна не ўключыла ў састаў свайго кабінета ніводнай жанчыны. Яна бязлітасна ўрэзала асігнаванні на тыя сацыяльныя праграмы, якія дазвалялі жанчынам палегчыць свае традыцыйныя хатнія абавязкі“.

**Б. Х.**



Пад гармонік Сцяпана Копы жанчыны з Беластока выканалі несмяротную „Беласточчыну“ на словы Віктара Шведа, а таксама заспявалі яму „Многая лета“.

# ЮБІЛЕЙ ВІКТАРА ШВЕДА

Галоўнае праўленне БГКТ супольна з праўленнем літаратурнай секцыі „Белавежа“ наладзілі 30 сакавіка 1985 г. урачысты вечар у гонар Віктара Шведа, вядомага беларускага паэта ў Польшчы, з нагоды яго шасцідзесятых угодкаў. Вечар адбыўся ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку. На гэтую ўрачыстую сустрэчу з паэтам прыйшлі яго сябры і прыхільнікі паэтычнага таленту Віктара Шведа.

Вечар адкрыў старшыня Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі. Ён сказаў:

— На маю долю выпала тое шчасце, што я плячо ў плячо з Віктарам Шведам крочыў ад самага пачатку ў цудоўную, але і капрызную краіну паэзіі. І таму зусім шчыра магу сёння сказаць, што ніхто з нашых паэтаў, пражываючых у Польшчы, не заваяваў такой трывалай дарогі да сэрца чытачоў на Беласточчыне, як Віктар Швед.



Выступае дацэнт Фларыян Няўважны.

Пасля Аляксандра Баршчэўскага голас узяў дацэнт Варшаўскага універсітэта Фларыян Няўважны. Выступіў ён з вельмі цікавым і змястоўным дакладам аб паэтычнай творчасці Юбіляра. — Віктар Швед, — гаварыў Ф. Няўважны, — сам назваў сваю паэтычную краіну сваёй „Зубровіяй“. Больш трапнай і больш прыгожай назвы ўжо нельга прыдумаць...

І так за праніклівым і добразычлівым дакладчыкам вандравалі мы амаль гадзіну часу па Шведавай Зубровіі. Найчасцей даводзілася нам спыняцца ў вёсцы Мора, адкуль родам Юбіляр і куды ён безупынку вяртаецца сваімі думкамі. Родныя Маці і Бацька ў яго вершах становяцца сімваламі гэтай самай блізкай і самай вялікай радзімы, якую надарэмна шукаць на картах свету, бо яна ў сэрцы...

Выступіў, вядома, і сам Юбіляр. Жыццё яму не шкадавала самых цяжкіх выпрабаванняў.

На вечары выступаў ён, аднак, шчаслівы і задаволены. Хаця, вядома, усхваляваны. І Віктар Швед мае поўнае права на гэта, каб быць шчаслівым, прынамсі тады, калі астаецца ён у нябачаных межах сваёй краіны Зубровіі.

— Свой паэтычны шлях, — гаварыў ён, — распачаў я вершам пад загалоўкам „Я беларус“, які быў надрукаваны ў „Ніве“ ў 1956 годзе.

Колькі ж разоў і мне даводзілася слухаць гэты верш, калі выступалі з ім пры самых розных нагодах! Такую ж самую папулярнасць заваявалі і многія іншыя творы Віктара Шведа, для прыкладу вершы: „Беласточчына“, „Родная мова“, „Маці“, „Бацькоўскі парог“...

Сам паэт цэлую сваю літаратурную спадчыну раздзяляе на некалькі асобных плыняў, якія ўзаемна дапаўняюцца і пераплятаюцца. На першым месцы паставіў ён вершы выразнага патрыятычнага гучання. Другая плынь — гэта тая, у якой найбольш прабіваецца туга за родным кутком, за Бацькаўшчынай, за гэтай краінай Зубровіяй. Трэцяя плынь (яна паявілася адносна нядаўна) — гэта філасофскі роздум над жыццём, над яго сэнсам і чарганнем, над вартасцю чалавечых летуценняў. Затым асабліва выразна ў творчасці сваёй Віктар Швед выдзяляе вершы для дзяцей. І тут ён не мае сабе роўных сярод беларускіх паэтаў, пражываючых у Польшчы. Да сваіх найменшых чытачоў Віктар Швед адносіцца вельмі сур'ёзна. Гэта творчасць павучальная, але без адпіхаючай дыдактыкі.

І ўрэшце Віктар Швед — таленавіты перакладчык на польскую мову рускіх і беларускіх паэтаў.

Да гэтых вядучых выказванняў свае заўвагі далучылі таксама іншыя ўдзельнікі гэтага юбілейнага вечара. Выступалі: Сакрат Яновіч, Георгій Валкавыцкі і Мікола Гайдук.

Затым ад імя Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ з віншаваннямі Юбіляра выступіў намеснік старшыні ГП д-р Ян Зенюк, які ўручыў Віктару Шведу на памяць статуэтку зубра, рэзбленую ў дрэве.

Юбіляр атрымаў многа кветак. Былі кветкі ад Галоўнага праўлення БГКТ, ад Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, ад

(Працяг на стар. 7)



Ян Зенюк уручае Віктару Шведу зубра.

# У ОРЛІ— АДДЗЕЛ БГКТ

Нядзеля 31 сакавіка б.г. Канферэнцыйная зала Гміннай управы ў Орлі. Пад дзяржаўным гербам лозунг на беларускай мове: „Сардэчна вітаем удзельнікаў сходу БГКТ“. У зале прадстаўнікі гурткоў з Арлянскай гміны. Мэта сходу — арганізаваць аддзел БГКТ.

Сход адкрыў член Прэзідыума ГП БГКТ, мясцовы асветны і грамадскі дзеяч Анатоль Мартыновіч. Затым з прамовай выступіў старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі. Спачатку ён выказаў задавальненне, што сярод прысутных многа выпускнікоў беларускай філалогіі. У прамове старшыня прадставіў шмат важных спраў з дзейнасці таварыства, а таксама праблемы, якія хвалююць нашую грамадскасць. Ён сказаў:

— У Арлянскай акрузе добра пастаўлена навучанне беларускай мовы. Мае гэта вялікае значэнне ў прывіванні любві да роднай зямлі, да краіны, да мінуўшчыны народа і да ідэй сацыялізма. Спрыяе гэта таму, каб не загінулі нашы традыцыі, свядомасць мясцовых жыхароў і іншыя духоўныя вартасці. Прамоўца падкрэсліў неабходнасць пабудовы музея помнікаў беларускай культуры ў Польшчы, ролю беларускай газеты „Ніва“, мастацкай самадзейнасці на роднай мове. Звярнуўся з заклікам актыўна ўдзельнічаць ва ўсім гэтым, а таксама арганізоўваць сустрэчы з нашымі пісьменнікамі, журналістамі, навукоўцамі і грамадскімі дзеячамі.

У дыскусіі закраналіся розныя праблемы дзейнасці, аднак без канкрэтных вывадаў, пакуль без вырашальнага характару. Гаварылася аб недахопе кніжак на беларускай мове ў кнігарнях і бібліятэках. Нат твораў нашых класікаў — Купалы ці Коласа — немагчыма купіць. Патрэбныя таксама песеннікі і пласцінкі з беларускімі песнямі. Проста адчувалася вялікая прага беларускай літаратуры. Мясцовыя запрашалі нашых літаратараў-„белавежцаў“ на сустрэчы. Настаўнікі ад імя сваіх вучняў прасілі, каб прыехаў да іх Віктар Швед, творчасць якога падабаецца маладым чытачам. Многія гаварылі аб захоўванні экспанатаў для беларускага музея і аб грашовых ахвяраваннях на яго пабудову. Праўленне новаарганізаванага аддзела ў Орлі, якое было выбрана на сходзе, будзе мець чым заняцца. Сярод яго выбраны прэзідыум: старшыня — Янка Добаш, намеснік старшыні — Анна Шыманская, сакратар — Яўгенія Тхарэўская (усе яны настаўнікі беларускай мовы), скарбнік — Ілья Агіевіч (пенсіянер, былы працаўнік гміннай адміністрацыі), члены: Анатоль Мартыновіч (інспектар асветы ў Орлі), Аляксандр Шыманскі (інструктар гміннага камітэта ПАРП) і Аляксандр Марціновіч (старшыня гуртка з вёскі Кошкі). Сход выбраў рэвізійную камісію аддзела ў складзе: Таццяна Шайкоўская — старшыня, Валянціна Суш і Ніна Гаўзэ — члены.

Пасля арганізацыйнай часткі перад удзельнікамі сходу выступілі школьнікі з Пашкоўшчыны са сцэнічнай пастаноўкай „Люцынка-інжынерыха“ Сакрата Яновіча. Гледачам яна вельмі спадабалася. Была відаць добрая праца настаўніка беларускай мовы ў Пашкоўшчыне — Янкі Добаша. Маладыя артысты дасканала валодалі беларускай літаратурнай мовай і адважна выступалі на сцэне.

Тэрыторыя Арлянскай гміны ў цэласці заселена беларусамі. Тут 12 гурткоў і больш 100 членаў БГКТ. Сярод іх многа актыўных дзеячоў таварыства. Можна спадзявацца, што аддзел у Орлі будзе моцным звяном БГКТ.

Ян Мордань

**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**

# ГРЫГОРАЎЦЫ

Сёння ў гміне Орля ёсць тры мясцовасці з гэтай назвай: чыгуначная станцыя (на лініі Бельск-Падляшскі — Чаромха), хутары пасля даваеннага фальварку і сяло (можна ў яго трапіць шашою з Бельска-Падляшскага ў Кляшчэлі: у вёсцы Малінніке павярнуць направа і далей 3 кіламетры добрай жвіроўкі). Грыгораўцы (на тутэйшай палескай гаворцы — „Рыгоруўці", мабыць, ад імя Рыгор) — старажытная мясцовасць, з дайшоўшых да нашага часу дакументаў з 1676 года гаворыцца пра рыгораўскіх прыгонных сялян. Аднак яе няма ў „люстрацыях" з 1570 і 1576 г.г. „сталовых" ці „гаспадарскіх" (г.зн. прыналежных вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму) маёмасцей і гэта схіляе да здагадак, што яна трапіла ў прыватнае ўладанне недзе на пераломе XV і XVI ст.ст., пры панаванні Казіміра Ягелончыка або яго сына Аляксандра. Вялікі і заможны маёнтак у Грыгораўцах праіснаваў аж да 1939 г., апошнім яго ўладальнікам быў Вітальд Касінскі. Мабыць, яго бабулька Вікторыя Касінская разам з дачкою прымала ўдзел у патрыятычнай маніфестацыі ў 1861 г. у Беластоку і за гэта абедзве яны трапілі пад паліцэйскі нагляд. Няма сумнення, што гэтыя адважныя жанчыны праводзілі падрыхтоўчую работу да паўстання 1863 г. і затым патаемна ўспамагалі яго ў сваёй мясцовасці, аднак пра тое дакументы невядомы. Але нейкае водгулле пра ўдзел тутэйшага насельніцтва ў гэтым паўстанні ўсё ж захавалася. Старэйшыя рыгораўчане кажуць, што ва ўрочышчах Тыклінава і Шыманшчына былі фальваркі, якія „яшчэ за цара" раскупілі навакольныя сяляне. Мабыць, гэтыя фальваркі належалі ўдзельнікам Студзеньскага паўстання, былі канфіскаваны царскімі ўладамі і затым распрададзены. Затое пра выхад у 1881-2 г.г. з прыгону „на волю" захавалася памятка ў назве дагэтуль супольнага выгана „Сэрвіта", які быў калісьці сервітутам і за лес, на якім вёска змагалася з панам у 20-я гады ўжо нашага стагоддзя (перамог пан — прадаў лес, не даўшы сялу ні зламанага граша).

Найбольшы зрух у застыглае жыццё глухой правінцыі ўнесла пракладка чыгункі Беласток — Брэст і пабудова ў 1873 г. станцыі Грыгораўцы. У сяле сталі паяўляцца новыя людзі рыгораўчане часцей траплялі ў свет, паявілася магчымасць зарабіць дадаткова грош з работы „на машыне", бо так і да сёння завуць тут чыгунку.

У лістападзе 1884 г. у Грыгораўцах была адкрыта царкоўнапрыхадская аднакласная школка, у якой вучыў Дзмітры Пацей, які закончыў народнае вучылішча ў суседняй Вольцы Выганоўскай. Школа свайго сталага памяшкання не мела, заняткі праводзіліся па чарзе ў сялянскіх хатах, з якіх паходзілі вучні. Таксама па чарзе харчаваўся настаўнік і ад сяла атрымоўваў яшчэ 17 рублёў заплаты ў год. У 1884/5 школьным годзе ў школцы займалася 25 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак, у 1885/6 — 18 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, у 1886/7 — 17 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі.



Грыгораўскія мільянеры Надзя і Сцяпан Радзіванюкі.

У 1900 г. у вёсцы Грыгораўцы было 32 дамы і жыло 256 чалавек. У 1905 г. у вёсцы жыло ўжо 324 чалавекі, у маёнтку — 50, на станцыі — 45 чалавек.

Перад выхадам на хутары ў 1910 г. у вёсцы лічылася 18 участкаў. Тады яшчэ былі такія назвы палеткаў, лугоў, урочышчаў: Гліны, Двуор, Кліны. Окопы, Рыбнікі, Ценце, Шырокіе Рызкі, Ямы. Прозвішчы самых даўніх тутэйшых сялянскіх родаў: Анапюк, Васілюк, Дзмітрук, Крот, Нікіцюк, Радзіванюк, Сахарчук, Семянюк, Сцепанюк, Талочка, Ткачук, Турчынскі, Шкода, Якубоўскі, Яварук. Падчас першай сусветнай вайны ўсю вёску казакі выгналі ў бежанства. За станцыю ў 1915 г. ішлі цяжкія пазіцыйныя баі, вынікам якіх былі шматлікія пахаванні на могілках „нямецкіх" і „рускіх", што знаходзяцца непадалёку вёскі. Людзі вярнуліся з бежанства ў разбураную вёску і на раскапаныя траншэямі ды разрытыя выбухамі палі. Жылося страшэнна цяжка. „Трэба было ходыты по жэбрах і ны было кому даваты, — успамінае Ананій Радзіванюк. — Бывало, сэло пэройдэш і достанэш тры картохэлькі. Маты з картохэль зварыт крупнік, а лупыны потовчэ і на плітэ спэчэ блінці. Мы ж б'емосе за іх. У Вольці за пять пуды жыта пас я рок два волы і тэля. Пас дэнь і нуоч, бо волы ўночы, до роботы ў полі, а тэля — удэнь".

У міжваенны час у Грыгораўцах была аднакласная школка, у якой доўгія гады вучыла Міраслава Маркоўская. Гэта была актыўная дзяячка Польскай сацыялістычнай партыі, выступала ў абарону пакрыўджаных парабкаў і сялян, хадайнічала за іх у розных арганізацыях. Шанавалі яе і насельніцтва і сябры-настаўнікі.

Вайна 1939-45 г.г. і з Грыгораўцаў узяла сваё жніво. На розных яе франтах загінулі Рыгор Сахарчук, Пётр Семянюк, Сцяпан Ткачук, служылі ў Войску Польскім і Савецкай Арміі Іван Анапюк, Мікалай Гілеўскі, Сцяпан і Іван Семянюкі і шэраг іншых.

Да Грыгораўцаў у пачатку ліпеня дайшла ў славутым „Нёманскім рэйдзе" партызанская дывізія імя Каўпака, якой тады камандаваў П. Вяршыгара. Пасля нанясення вялікіх страт нямецкім войскам яна тут праламала фронт і аб'ядналася з Савецкай Арміяй. На ўскраіне вёскі Грыгораўцы 25 ліпеня 1944 г. у бітве з нямецкімі танкамі загінуў Герой Савецкага Саюза лейтэнант Аляксей Фларэнка, імя якога прысвоена Пачатковай школе № 2 у Гайнаўцы. Разам з ім загінула каля дваццаці савецкіх салдат. Магілы іх знаходзяцца на могілках савецкіх воінаў у Гайнаўцы.

(Працяг на стар. 6)



Домік з даваеннага часу.

**З маёй званіцы**

## НЕ ПАПАЛА ПАД КАРОВУ

Уласная мама раз мне сказала: пакорнае цялятка дзве мамкі ссе, а мая мама сама чалавек бойкі, справядлівы і непакорлівы. Проста гэта толькі заўвага з боку дарослага і вопытнага чалавека. Людзі раяць: едзь памаленьку, пакуль станеш на сваіх дваіх, тыцні туды-сюды, можа не толькі жаба цыцкі дасць, ды і тую занадта не намагай. Папусцяць — цягні, дуй колькі ўлезе. І ўглядайся, вачэй не шкадуй. Чалавек на чужых памылках вучыцца. Што там кніжкі ды школа — яны толькі розум марочаць. А я — чалавек начытаны, які верыць у друкаванае і пісанае. Бацькі таксама даволі дзіўныя, у нейкіх святых пісаннях разбіраюцца, не надта ім „ссецца"; едуць на худой кабылцы. Выпусцілі мяне тата з мамай ды школа — жыццю вучыцца на шырэйшай ніве.

— Ты маладая, дурная, жыцця не ведаеш і ведаць не будзеш, — паглядзеў на мяне вокам бліскучым і вельмі вясёлым мой першы шэф. І праўду казаў. Другі начальнік цэлы год выбіваў з мяне гэтую дурноту, энтузіязм і веру ў мае сілы і людзей, але ён гэта рабіў без усмешкі. Здаецца, яго жыць навучылі ўжо даўнавата. На канец маіх „універсітэтаў" шэф моцна пацісnуў мне руку і пажадаў, каб добра і выгадна мне хадзілася па зямлі.

Думаю так я сабе: можа і пара сапраўды „навучыцца жыць"? Колькі ж хадзіць можна з кляймом недарослаcці! З кляймом дурное веры, што свет можна і трэба папраўіць, замесці ды вышпарыць мяцёлкай...?

Аднак найбольш мяне нервуе адна справа. Чалавеку часам абрыдне, калі адзін з нашых усім здаўна вядомых беластоцкіх і сталічных суперменаў называе цябе безупынна „дзеткай"!

Што ж рабіць...!

Мяцёлка





Włodzimierz Michajłow — Pierwszy Międzynarodowy Kongres Rezerwatów Biosfery (Mińsk, 26.IX.—2.X.1983 r.). „Nauka Polska" (W-wa), Nr 1/1984 r., s. 117—123.

Polsko-białoruskie związki kulturalne. „Nauka Polska", Nr 2/1984 r., s. 137.

Stanisław Bęk — Kilka uwag o wpływach białoruskich i litewskich u Melchiora Wańkowicza. „Poradnik Językowy" (W-wa), Nr 9/1983 r., s. 607—609.

Zofia Skibińska — „Pan Tadeusz" Bronisława Taraszkiewicza na tle innych przekładów białoruskich. „Poezja" (W-wa), Nr 11—12/1984 r., s. 162—164.

Jan Prokopiuk — Zagadnienie tolerancji w kościele prawosławnym. „Chrześcijanin a Współczesność" (Wrocław), Nr 2/1984 r., s. 22—26.

Wanda Bogusłowicz — Niektóre cechy matek a płeć, długość ciała i ciężar noworodków na przykładzie materiału ze szpitala Wojewódzkiego w Białymstoku. „Przegląd Antropologiczny" (W-wa), Nr 1—2/1983 r., s. 109—118.


П. Байко

(Працяг са стар. 5)

# Грыгораўцы

Падчас вайны частка вёскі згарэла, рэшта была ababрана фашыстамі з жывёлы. Першыя пасляваенныя гады былі надта ж неспакойныя — банда крывава расправілася з суседняй вёскай Залешане. Аднак паступова Грыгораўцы станавіліся на ногі. На перададзенай былым парабкам і бяднейшым сялянам маянтковай зямлі пачалі расці заможныя хутары, вёска таксама развівалася, адбудоўвалася і перабудоўвалася па-новаму. Мноства моладзі пайшло „ў свет“, шмат хто з яе закончыў вышэйшыя школы, напрыклад, з „роду“ Ткачукоў сталі: Ірына і Сяргей — інжынерамі, Міхал — настаўнікам, Сцяпан — аграномам.

Цяпер Грыгораўцы — гэта заможнае і людное сяло, жыве тут 290 чалавек, у тым ліку: 150 мужчын, 85 дзяцей і моладзі да 18-гадовага ўзросту (45 дзяўчат), 50 чалавек старэнькіх пасля 65 год жыцця. Тут 83 актыўныя гаспадаркі, якія апрацоўваюць 627 га, з якіх ворыва — 395 га, сенажаці — 138 га, пашы — 94 га, лесу — 93 га, няўдобіц — 11 га. У 1984 г. рыгораўчане сеялі: пшаніцы 21 га азімай і 15 га яркі, жыта — 108 га, ячменю — 4 га, аўсу — 47 га, сумесей аўсу з ячменем — 40 га, ільну і канапель — 16 га, канюшыны — 56 га; садзілі: бульбы — 65 га, трускалак — 8 га і, вядома, у невялікай колькасці іншыя расліны. У хлявах трымалі 502 штукі быдла, у тым ліку 236 дойных кароў, свіней — 423 штукі, у тым 50 свінаматак, авечак — 184 штукі, коней — 93 штукі. Зямлі ў ПФЗ-эце было 19 га, але ўся загаспадарана.

Наколькі ў Грыгораўцах людзі працавітыя і дбайныя, найлепш сведчыць продаж імі дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі. Найлепшыя з іх: Уладзімір Ткачук прадаў за 1984 г. дзяржаве прадукцыі са свае 22-гектаровай гаспадаркі на суму 1 мільён 570 тысяч злотых, Уладзімір Цэтра з 13 га — на 1.228 тыс. зл., Сцяпан Радзіванюк з 19 га — на 1.132 тыс. зл., Мікалай Шкода з 22 га — на 992 тыс. зл., Рыгор Анапюк з 8 га — на 913 тыс. зл. Вядома, апрача гэтых праўдзівых мільянераў, ёсць многа паўмільянераў. І гэтыя мільёны рыгораўчане ўкладаюць у пабудову новых хлявоў, клуняў, дамоў, набыванне сельскіх і транспартных машын, сучаснага хатняга абсталявання, саліднай мэблі, багатай вопраткі. Каб толькі ўдалося дзе купіць!

**М. Гайдук, Р. Сасна**
Фота М. Гайдука

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Бацька за парог — дзеці за пірог.

Без агню пячэ, без нажа рэжа.

Благая тая дамова, дзе вала бадзе карова.

Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці.

Гні дрэва, пакуль гнецца, вучы дзіцятка, пакуль слухаецца.

# АДДЗЕЛ БГКТ У СЯМЯЦІЧАХ

Дзень 26 сакавіка для беларускага насельніцтва ў сямяціцкім раёне быў днём асаблівай важнасці. У гэты дзень прадстаўнікі 17 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца 356 членаў, сабраліся ў памяшканні гміннагарадскога камітэта партыі з мэтай стварэння аддзела і выбару яго праўлення.

Сакратар Галоўнага праўлення Віталіс Луба выступіў з інфармацыяй, падсумоўваючай дагэтуляшнюю працу БГКТ у сямяціцкім раёне.

Пасля выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня, ён расказаў аб бягучых справах Беларускага таварыства і прысвяціў шмат месца справам будовы музея ў Гайнаўцы.

У дыскусіі першы выступіў Мікалай Кусачук з Вулькі Нурэцкай, які гаварыў аб занядбанай працы БГКТ у вясковым асяроддзі і аб тым, што недастаткова смела людзі карыстаюцца роднай мовай.

— Ёсць жа ў нас навучанне ў школе беларускай мовы, а старэйшыя не вывучылі яе. І ў гэтым можа дапамагчы чытанне „Нівы“ і беларускіх календароў, але шкада, што няма адрыўных беларускіх календароў, яны былі б больш папулярныя ад кніжак.

Сяргей Арэшук з Клюковіч даказваў, што ў іх раёне няма сэнсу ствараць аддзелы ў гмінах. А стварэнне аддзела ў Сямяцічах, у раённым цэнтры, найбольш правільнае. Гэта будзе спрыяць лепшай апецы над гурткамі.

— З культурна-асветнай дзейнасцю ў нас куды цяжэй, чым на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, — гаварыў ён. — У нас не так, як там, у нас няма беларускага ліцэя ў раёне, няма той беларускай „базы“, таго кампетэнтнага беларускага цэнтра асветы і культуры, які мог бы спрыяць узняццю на вышэйшы ўзровень нацыянальнай свядомасці.

Падкрэсліваючы выхаваўчае значэнне народных беларускіх фэстынаў, Сяргей Арэшук прапанаваў далей традыцыйна арганізаваць іх у вёсцы Літвінавічы.

Пётр Леанюк — кіраўнік раённага асяродка прапаганды ў Сямяцічах (ён член БГКТ) у сваёй прамове выказаў занепакаенне малою колькасцю падпісчыкаў „Нівы“:

— Гэтай праблемай павінны заняцца гурткі БГКТ. На справы чытальніцтва прэсы, у тым ліку і „Нівы“, павінны таксама звярнуць бачную ўвагу і партыйныя арганізацыі.

Пётр Леанюк прапанаваў, каб ГП БГКТ разам з гміннымі інспектарамі асветы дакладна прааналізавалі стан беларускага школьніцтва і магчымасці павелічэння колькасці школ, у якіх магла б выкладацца беларуская мова.

Гэты дыскутант звярнуў таксама ўвагу на неабходнасць шырэйшага развіцця мастацкай самадзейнасці і на выкарыстоўванне яе на шматлікіх спатканнях і акадэміях.



Сямяцічы. Фота Я. Целушэцкага.

А хто паможа ў шырэйшым разгортванні мастацкай самадзейнасці? На гэтае пытанне даў адказ Кастусь Пытлюк з Вычулак.

— У раёне нашага дзеяння 40-50 працэнтаў настаўнікаў гэта беларусы. Трэба да іх звярнуцца з просьбаю. Праўда, некаторыя з іх саромяцца прызнацца да сваёй нацыянальнасці. Але тыя, што прызнаюцца, могуць аказаць дзейсную дапамогу ў шырэнні беларускай асветы і культуры. На гэтую тэму варта арганізаваць з'езд настаўнікаў і аб гэтым няхай падумае ГП БГКТ. Мне здаецца, — гаварыў гэты настаўнік-пенсіянер, — што ўсе яны заняліся б дзецьмі і дарослымі з той мэтай, каб беларускае слова, беларуская песня, танец, беларуская культура ў шырокім яе разуменні была прысутная ў нашых вёсках.

Як вядома, найбольшым прапагандыстам беларускай культуры з'яўляецца наш часопіс „Ніва“.

— Я буду ставіць на сходзе сваёй партыйнай арганізацыі справу падпіскі на „Ніву“. — пераканаўча інфармаваў прысутных Базыль Леанчук з Машчонай Панскай. — Наша адзіная беларуская газета павінна быць у кожнай беларускай хаце. Памагу я таксама ў продажы нашага Беларускага календара, які так позна вышаў з друку.

Далей Базыль Леанчук гаварыў аб патрэбе прыгранічнага супрацоўніцтва з суседнімі раёнамі Савецкай Беларусі і абмене экскурсіямі.

Затым адбыліся выбары. У склад праўлення аддзела выбрана 16 асоб і 3 асобы ў рэвізійную камісію. Члены праўлення аддзела выбралі прэзідыум у наступным складзе: Мікалай Касцюк — старшыня, Пётр Леанюк — намеснік старшыні, Міхась Вішанка — сакратар, Сяргей Путко — скарбнік, Мікалай Бартнічук, Ірэна Ключык і Яўген Шышка — члены. Старшыня рэвізійнай камісіі — Мікалай Кусачук.

Канферэнцыя закончылася прыняццём праграмы дзеяння аддзела, накіраванай на рэалізацыю пастаноў X з'езда БГКТ, якую зачытаў Міхась Вішанка.

Канферэнцыя прайшла на высокім арганізацыйным узроўні і закранула ўсе найважнейшыя справы беларускага асяроддзя сямяціцкага раёна. У ёй узяло ўдзел 28 асоб.

**Міхась Хмялеўскі**

**ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ**

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА

Я ўсё яшчэ не магу вызваліцца ад думкі аб трагічным ды заблытаным лёсе сям'і Веры Міхайлаўны і Хведара Маскаленка, савецкіх людзей, якіх ваенны лёс закінуў у Беласток. Ніўскі натураліст, інжынер Барыслаў Рудкоўскін, справядліва заўважыў у сваіх адгалосках, што лёс дачкі і сына Хведара Маскаленкі — з'ява неадзіночная, не адарваная ад лёсу ўсяго нашага народа ў гэты трагічны час крыві і пораху.

Гісторыкі ваенных дзеянняў кажуць коратка: у раёне Беластока немцам удалося акружыць і пасля заўзятага супраціўлення, да канца месяца чэрвеня 1941 года, ліквідаваць шмат якія групіроўкі 3 і 10 армій, а таксама 6-га механізаванага корпуса савецкіх Узброеных Сіл. Была гэта першая перамога вермахта, якая дазволіла яму паспяхова ажыццяўляць план „маланкавай вайны“. план „Барбароса“.

„За тры тыдні вайны былі пакінуты Латвія, Літва, Беларусь, значная частка тэрыторыі Украінскай і Малдаўскай ССР. За гэты перыяд гітлераўская армія прайшла ў глыбіню Савецкага Саюза; на паўночна-заходнім напрамку — на 450-500 кіламетраў, на заходнім — на 450-600 км і на паўднёва-заходнім — на 300-350 км“. — адзначаюць аўтары „Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза 1941-1945 гадоў“.

Так пішуць гісторыі. Але я з уласнага жыццёвага вопыту і па расказах іншых людзей ведаю, што абазначаюць гэтыя сухія факты для многіх тысяч людзей, якім, на іх няшчасце, давялося ўдзельнічаць у гэтых ваенных падзеях.

Так, інжынер Барыслаў Рудкоўскін справядліва адзначае, што лёс Любкі і Валодзі Маскаленка — гэта не выключэнне. Па лясах, уздоўж шашы між Беластокам і Ваўкавыскам, блукалася тады многа, вельмі многа нечакана асірацелых дзяцей.

— Гэта было сапраўднае, жудаснае пекла, — перапісваю з магнітафоннай касеты словы аднаго жыхара вёскі Грыбаўцы. — Наша хата знаходзілася пад самым лесам, у некалькіх сотнях метраў ад шашы, — гаворыць ён. — Дык я ўсё гэта бачыў уласнымі вачыма. Тут дзіця яшчэ грудное, а побач забітая маці, там труп байца, тут нейкі цывільны чалавек стогне і просіць дапамогі, у іншым месцы зноў дзяцюк, быццам ашалелы, бегае па лесе і кліча то маму, то бацьку... А над лесам ды над дарогаю раз за разам паяўляюцца цэлыя эскадрыллі нямецкіх самалётаў ды бамбяць, ды страляюць, сякуць з кулямётаў! Каб і хацеў чалавек дапамагчы, штосьці зрабіць, кагосьці выратаваць, дык няма як, бо жах, што і самаму галаву пакласці прыдзецца...

...А лета стаяла выключна гарачае. І таму захаваўся ў памяці народнай характэрны малюнак, які заўсёды паўтараецца ва ўспамінах: немцы ішлі ды ехалі

## Наш вакальна-інструментальны

Вясельнае застолле. Маладзенькі светлавалосы хлопец паводзіць сябе скромна і ветліва. Калі ўжо госці крыху падхмеляцца і павесялеюць, ён бярэ ў рукі акардэон. Чароўныя гукі родных песень авалодваюць усімі. А потым ужо толькі і чуваць просьбы гасцей: „Зайграй Пеця!". І Пеця іграў, а людзі слухалі, захапляліся, весяліліся і спявалі.

Міналі гады. Пеця вучыўся, служыў у войску, працаваў тэхнікам, але ніколі не расставаўся з музыкай. Стварыў з сябрамі музычны калектыў, які іграў і спяваў амаль па цэлай Беласточчыне. Вяселлі, хрысціны, танцы і розныя ўрачыстасці. З гадамі змяняўся састаў калектыву, а Пеця быў вядучым. Нягледзячы на працу ў будаўніцтве, у кожны святочны дзень быў ён музыкантам. Потым перайшоў працаваць у Гайнаўскі дом культуры. Гэта змена дазволіла яму лепш выкарыстаць свае музычныя здольнасці. Тут ён абслугоўвае музычна-тэхнічнае абсталяванне. Апрача гэтага, актыўна займаецца арганізацыяй культурных мерапрыемстваў. Наладзіў супрацоўніцтва з моладдзю Гайнаўскага беларускага ліцэя. У выніку гэтага стварыўся вакальна-інструментальны калектыў у складзе: Пётр Скепка, яго брат — Уладзімір, Мар'ёля Пшыходская, Дзмітрый Тыханюк і Аляксандра Мараўская. Усе яны маюць пачатковую музычную падрыхтоўку. Так склалася, што цяпер гэтыя таленавітыя маладыя людзі жывуць у розных гарадах: адны працуюць у Гайнаўцы, другія вучацца ў Беластоку. Аднак надалей ствараюць супольную групу. Гэта яны два апошнія гады ігралі на навагодніх балях беларусаў у варшаўскім Палацы культуры, а таксама на студэнцкіх атрасінах і навагоднім балі БГКТ у Беластоку.

Іх рэпертуар складаецца з польскіх, рускіх, украінскіх, а перш за ўсё з беларускіх песень. Любяць людзі мелодыі ў выкананні гэтага калектыву і часта запрашаюць музыкантаў на розныя ўрачыстасці. Члены калектыву хочуць як мага больш распаўсюджваць родныя беларускія песні, унесці свой уклад ва ўзбагачэнне нашай культуры. Шкада толькі, што няма музычнага інструктара, які дапамог бы, падвучыў. Цяжка таксама знайсці беларускі спеўнік.

Поспехаў вам, маладыя сябры!

**В. Хрысцінін**

*Помнікі культуры*

## ЦАРКВА СВЯТОГА ДУХА Ў ГАЙНАЎЦЫ

Гайнаўскі прыход залічваецца да параўнальна маладых прыходаў. Узнікненне яго прыпадае на гады вяртання з бежанства ў Расію нашага праваслаўнага народа. Пачатак царкоўнай арганізацыі прыпадае на 1925 год, калі ў прыватным будынку была зроблена капліца Іконы Казанскай Б. М.

У самой Гайнаўцы пасля І сусветнай вайны, у сувязі з развіццём драўнінай прамысловасці, колькасць жыхароў значна павялічылася, але ўлады ўсё не давалі дазволу на арганізацыю праваслаўнага прыхода.

Толькі ў 1936 г. духавенства суседняга дубінскага прыхода атрымала дазвол на выконванне духоўных паслуг у Гайнаўцы. А ў 1942 г. будынак лясніцтва быў перароблены на царкву св. Мікалая і тады арганізаваўся ўім прыход. Праз тры гады пабудавалі званіцу, а ў 1949 — парафіяльны дом.

Рост Гайнаўкі быў спрыяльны развіццю прыходу. У 1953 г. была пабудавана царква Усіх Святых на Гайнаўскім могільніку, у 1955 — у Арэшкаве, у 1956 г. дабудаваны алтар у парафіяльнай царкве Іконы — Нячайная Радасць.

У 1972 г. была пачата ў Гайнаўцы будова новай вялікай царквы па праекту інж. архітэктара А. Грыгаровіча.

Будова царквы, а таксама званіцы — гэта архітэктурны эксперымент не толькі ў маштабе адной краіны. Тым больш цікавы ён, што знайшоў прымяненне ў мясцовасці, у якой ніколі не эксперыментавалі — у мясцовасці статычнай, устойлівай на іншыя ўплывы, моцна звязанай з духам праваслаўя. У царкве гэтай цяпер адбываюцца Дні царкоўнай музыкі.

Старая царква св. Мікалая ў канцы 1984 г. была разабрана і перавезена ў вёску Чыжы, дзе яе паставілі на месцы нядаўна згарэўшай чыжоўскай царквы.

**Р. С.**



з закасанымі рукавамі, часта ў адных гімнастычных кашульках... Інакш проста не можна было вытрымаць гэтай гарачыні, якую ўзмацнялі яшчэ і шматлікія пажары. Гарэлі вёскі і гарэў лес. Разрывалася ўсялякая пакінутая амуніцыя.

Таму і трупы трэба было закопваць неадкладна, нават тады, калі не прымушалі да гэтага тылавыя часці акупацыйнай арміі. Сяляне часта рабілі гэта самі. Проста не маглі спакойна глядзець на гэтых запухшых пакойнікаў, жыццё якіх абарвалася так трагічна. Чалавеку належыцца бескарысная апошняя паслуга. Гэта святы народны закон, супраць якога ніколі не асмеліўся выступіць аніводзін наш зямляк.

Марш на ўсход, славуты „Дранг нах остэн", хаця вельмі паспяховы ў вачах кіраўніцтва германскай гітлераўскай імперыі і галоўнага камандавання яе ўзброенымі сіламі, каштаваў вермахту не мала ахвяр і затрат. У кніжцы „За кулісамі галоўнага камандавання Вермахтам" нямецкі гісторык Гельмут Грайнер літаральна сцвярджае:

„Зачэпная сіла арміяў „Усход" была ўжо вычэрпаная, а яе затраты на дзень 1 снежня 1941 года састаўлялі: 162.314 забітых, 33.334 загінуўшых і 571.767 параненых, гэта значыць 24 прац. яе першапачатковага стану, які састаўлялі каля 3,2 мільёна чалавек".

Свае трупы, асабліва ў першых тыднях вайны, немцы акуратна падбіралі і вывозілі на радзіму. Наша зямля масава прымала савецкіх людзей, у першую чаргу — воінаў самых розных групіровак Чырвонай Арміі. А жывыя блукаліся па лясах, дарогах і бездарожжах, не ведаючы, дзе свае, а дзе вораг, дзе нейкае камандаванне, каго слухаць і якія загады выконваць.

На другі ці на трэці дзень вайны нейкая група савецкіх салдат спынілася ў лесе для адпачынку. Адыйшлі на пару соцень метраў ад шашы і прыселі ў густым хвойніку. Абдзертыя, з бінтамі на руках і на твары, бездапаможныя, у рэштках абгарэлага адзення, у парваных ботах. Разам — чалавек 20. Перакусіць бы, напіцца хаця б чыстай вады і крыху адпачыць!

А тут — чэрвень і летняя спёка, і ў лесе ані ягады, ані маліны. Яшчэ зарана на ўсё гэта.

Адзін з іх, бадай старшы па ваеннаму званню, падсунуўся на ўскраіну лесу і прагна ўзіраўся ў адзіночны лясны хутар, хацелася ведаць, хто яго займае: прыяцель ці вораг, чалавек спагадлівы, ці гадзюка, быццам той балотны лясун, што няшчасцем чалавека корміцца?

На панадворку ішла звычайная гаспадарская мітусня. Нейкі старэйшы чалавек напаіў ля калодзежа свайго коніка, нейкая жанчына, бадай, яго жонка, расселася на столачку ля каровы і неўзабаве салдат пачуў шум доенага малака.

Вось каб хаця паўкубка гэтага сырадою!

Праглынуў сліну. У жываце балюча забулькала, і ён ледзь не сарваўся з месца, каб пабег-

(Працяг на стар. 8)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Добры дзень, Астроне! Я пасылаю табе тры сны. Я ўжо замужняя. Часта мне сніцца, што знаходжуся ў родных бацькоў у хаце і мяне там хочуць хуліганы забіць. Я тады зачыняю дзверы і вокны, а пасля ўцякаю праз вакно і бягу далёка ў густы лес.

А вось другі мой сон. Я ў роднай хаце. Раптам надыйшла вялікая хмара, а я стаяла на кухні. Загрымеў гром і праз вакно ад грому ўляцела скала. Я яе ўзяла ў рукі і выкінула праз акно.

А вось і трэці сон. Нядаўна мне прыснілася, што я на роднай зямлі, у бацькоў. Я тады была на полі. Хадзіла па зялёнай траве і бачыла многа бэзу. Мы з сяброўкай рвем гэтыя кветкі. Потым мая сяброўка недзе прапала. Каля мяне апынуўся мой брат з жонкай. Яны таксама рвуць бэз. Я зноў бягу рваць кветкі. Нарвала вялікі букет бэзу, а ён такі прыгожы. Мы ідзем, а кругом нас цвіце бэз і вішні. На гэтым сон мой скончыўся.

Адгадай, Астроне, што абазначаюць мае сны! Буду вельмі ўдзячна. Да пабачэння.

Марыя

Марыя! Сны твае цікавыя. Відаць, справы роднай хаты не чужыя табе, калі так праследуюць цябе ў снах. Мо, аднак, па парадку.

Першы сон сведчыць аб нейкіх клопатах, звязаных з роднай хатай. Аб гэтым сведчылі б тыя хуліганы, якія хацелі цябе забіць і ад якіх ты ўцякала ў лес.

Другі сон вельмі выразны. Надышла ж вялікая хмара і загрымеў гром, а ў вакно яшчэ ўляцела скала. Значыць, збіраецца нейкая навальніца. Будуць цяжкасці. Аб гэтым яскрава сведчыць асабліва тая скала. Але ты ж яе выкінула, значыць, і цяжкасці пераможаш.

Што датычыць трэцяга сну, дык ён з'яўляецца ўжо як бы паслясловем да твайго змагання. Ёсць надзея, што ўсё скончыцца добра... Ты ходзіш па зялёнай траве. Рвеш з сяброўкай а пасля з братам і яго жонкай кветкі. Кругом цвіце бэз і вішні. Усё будзе ў парадку.

**Астрон**

(Працяг са стар. 3)

## ЮБІЛЕЙ ВІКТАРА ШВЕДА

беластоцкага клуба БГКТ і ад прыватных асоб.

Юбіляр, дзякуючы арганізатарам вечара і ўсім прысутным, заявіў адначасова, што яго творчы шлях яшчэ незакончаны, што ён усё яшчэ знаходзіцца ў дарозе.

Не спяшы мая ты восень,
Калі ў душы маёй вясна, —

паўтарыў ён словы са свайго верша. І мы таксама ўпэўнены, што Віктар Швед яшчэ доўга і няспынна будзе вадзіць нас па сваёй паэтычнай Зуброві.

Вечар удаўся, прайшоў у прыемнай, сяброўскай атмасферы. Астанецца ён надоўга ў памяці не толькі Юбіляра.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## ЦІКАВІНКА

### ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ (1)

Прызнакі прамінання гадоў (чытай старасці). Скура сушэе. Паяўляюцца маршчыны і жылякі. Выпадаюць валасы. Лягчэй ламаюцца рукі і ногі, бо змяняецца хімічны склад касцей. Змяншаюцца лёгкія. Ужо ад 15-18 года жыцця слабне слух. Ад 25 года мякчэюць мускулы. Ад 40 — слабеюць вочы. Ад 50 — знікае адчуванне смаку. Ад 60 — знікае нюх (не чуеш запаху). Аж на 30 прац. менш крыві пампуе сэрца. Чалавек хутчэй заражаецца рознымі хваробамі. Ад звырадненне пазваночніка чалавек зніжаецца (стапталася — кажа мая мама). Ад аслабленых мускулаў — горбіцца.

Ад 30 года праўдападабенства смерці ўзрастае ў 2 разы. У кожны год арганізм трацiць 0,8 працэнта жыццёвых здольнасцей.

**Чаму? Чаму чалавек старэе?**

Ёсць 500 розных тэорый, якія прабуюць высніць гэты немінуемы лёс. Некаторыя: прамяняванне, празмерная канцэнтрацыя металаў у арганізме, змяншэнне біялагічнай актыўнасці мозгу, аслабленне хімічнага перадавання імпульсаў у мозг, знікание дзейнасці палавых залоз (гручолаў), закісленне арганізма, атручванне арганізма ежай.

Важныя доследы датычаць ролі імуналагічнай сістэмы (адпорнасці арганізма), якая, старэючы, не патрапіць адрозніць добрае ад кепскага для сябе, і пачынае дзейнічаць супраць сябе — свайго арганізма. Найбольш адпорны на хваробы арганізм бывае ў дзіцяці. Потым адпорнасць пастаянна змяншаецца. Лімфацыты старэючага арганізма, замест нішчыць ворага (заразкі-вірус, бактэрыю, ракавую клетку) пачынаюць атакаваць уласную тканку. Гэтак вырастаюць хваробы: артрэтызм, цукрыца, артэрыёсклероз, старэчыя псіхозы, рак.

(авл)

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Старэйшыя інфарматары, гаворачы аб радзільна-хрысцiннай абраднасці, нярэдка як бы адштурхоўваюцца ад праблематыкі, звязанай непасрэдна з гэтай абраднасцю, і аддаюцца разважанням, якія можна было б назваць шырэйшым аспектам філасофствавання на тэмы адносін паміж дзецьмі і бацькамі. Трэба адразу адзначыць, што разважанні на гэту тэму маюць найчасцей сумны або глыбока песімістычны характар. З якіх крыніц выплывае гэты смутак і песімізм? Большасць інфарматараў, асабліва жанчын, лічыць, што ўсе надзеі, усе мары, якія бацькі звязваюць з нованароджанымі дзецьмі, наогул не толькі не пацвярджаюцца жыццём, але вельмі часта ператвараюцца ў іх супрацьнасць. І справа не ў тым, што дзіця вырастае не ў так прыгожага, здаровага, шчаслівага і заможнага чалавека, як аб гэтым мараць яго бацькі ў момант нараджэння.

Расчараванне і песімізм найчасцей звязаны з паставай дарослых дзяцей і з іх адносінамі да сваіх бацькоў. Паводле большасці інфарматараў, дзеці найчасцей нават у найменшым працэнце не сплачваюць таго доўгу, які зацягваюць ад бацькоў у часе свайго дзяцінства. Болей таго, дарослыя дзеці, адыходзячы ад бацькоўскіх рад і запаветаў, не толькі крыўдзяць бацькоў, але шкодзяць самім сабе. Часта разумеюць гэта ў сваім жыцці так позна, што ўжо змяніць стан рэчаў на лепшае нельга.

Разважанні на гэту тэму маюць, як правіла, характар балючых прызнанняў, напоўненых безрадасцю і рэзыгнацыяй. Паслухайма некаторыя з іх.

„Божэ мой, Божэ! Колькі ж маці насідзіцца над калыскаю, колькі ж ні надумаецца над тым, што дзіця жджэ, колькі ж ні намоліцца, колькі ж ні наспіваецца. І аб чым вана думае, і моліт, і спевае? Вадомо — аб адном. Каб тое дзіця, як вырасце, было парадачным чалавекам, каб людзей шанавало і каб людзі яго шанавалі. А як вано выходзіло ў канцы канцоў? Ой, ні дай Божэ, найчасцей, то вырастало штось такое небагавое, што і гаварыць шкада. Падрасце крыху, яшчэ і малако з-пад носа не вытрэ, а ужэ да чаркі заглядае, ужэ дахаты ні вярочаецца, ужэ у авантуру лезе, а то вон кагось наб'е, а то яго наб'ют. А чы то мало такіх, штс на водку то і з хаты штось вывалачэ або штось у суседаў украдзе. І што ж маці робіт тады? Вадомо, і плачэ і моліт, каб Бог злое ад хаты і ад сем'і адхіліў. Але што там гаварыць, бывае і так, што і Бог з такою брыдою не можэ парадзіць, а зрэштаю, чы у яго німа важнейшых дзелоў?"

Так выказалася жыхарка вёскі Лука Анна Садоўская. Не менш драматычна гаворыць і жыхарка вёскі Скупава М. Гарустовіч:

„Я ні магу скаржыцца на свае жыццё. Вано вадомо, што было па-рознаму, але ні магу на сваіх дзяцей сказаць кепске слово. Але, мой Божэ, дзе толькі ні глянеш, колькі ж таго зла! Чы то мало такіх дзіцей, найчасцей хлопцоў, але і дочок таксамо, што вырасшы, як тые зверы кідаюцца на сваіх бацькоў. А колькі ж то раз такім гіцлем, калі вон яшчэ быў дзіцём, бацькі цешыліся і хваліліся перад суседзямі, што вано добрэ, што розумнэ, што будзе подпорою на старасць. А такая подпора после бацькоў як сабак даглядала; хлеба шкадавалі, з хаты выганялі. От табе і маеш, а мой хорошэнькі, а мой добрэнькі, а мой даражэнькі, а мая радасць і надзея! Малыя дзеці — малы клопат, вялікі дзеці — вялікі клопат". Усё сказанае, аднак, не адносіцца непасрэдна да радзільна-хрысціннай абраднасці, якая наогул насычана настроем радасці і аптымізму.

**А. Баршчэўскі**

---

**Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р**

**ЗЕЛЕ**

**(вясельная)**

Прывэзёнэ зеле,
прывэзёнэ зеле,
з чужое країны.
Дэ ёго посадіті,
коб можно росплодіті,
коб можно росплодіті?
За столом посадіті,
за столом посадіті,
на ложку положыті,
на ложку положыті —
то можно росплодіті,
то можно росплодіті.




**Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, і яе дачкі Анны Комар, 1932 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

---

(Працяг са стар. 7)

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА

чы на гэты хутар. Можа, увечары, калі сцямнее, рашыў, пайду пастукаць у акно, папрасіць дапамогі. Змучаныя вачыма надалей сачыў за гэтым хутарам, з якога да яго вушэй даходзілі адзіночныя словы. Былі яны падобныя на рускія, але зразумеў, што гэта не руская мова. Такія словы ён ужо чуў. Там, дзе давялося яму служыць, на аэрадроме між Беластокам і Заблудавам, усе сяляне так менавіта гаварылі. Сутыкаўся з імі, калі прыязджалі яны на будову гэтага аэрадрома, калі адраблялі свой абавязковы надзел і на вясковых вечарынках, калі зрэдку камандаванне дазваляла салдатам адлучыцца з месца службы, таксама гутарылі і так спявалі свае мясцовыя народныя песні. Значыць, і на гэтым хутары жывуць беларусы! — прыйшоў да вываду і адчуў палёгку, але ў кішках яшчэ больш балюча забурчэла. Да яго далучыўся сябар.

— Ну, і што там? — пацікавіўся.

— Глянь, хутар нейкі і сырадой гатовы! — адказаў ён, ды дадаў: — Можа паспрабуем?

Сябар адхіліў галінку, каб лепш бачыць і, паўзіраўшыся хвіліну, з уздыхам заявіў:

— Як прыкажаце, таварыш палітрук!

— Ты рашай, ты ж камандзір групы! Я толькі ведаю, што не паеўшы, далей мы не зможам ісці. А на хутары, здаецца, свае людзі, беларусы...

— Так ці інакш, усім нам хана ўжо і годзе!

— Вазьміце сябе ў рукі, таварыш капітан! — даволі строга заявіў палітрук.

— У рукі дык ахвотна ўзяў бы я цяпер штурвал свайго самалёта! — таксама строга адрэзаў капітан. — Толькі дзе ён? Дзе нашы самалёты? Ты палітрук, дык растлумач мне, хто дапусціў, каб нас разбілі, як качак на гнёздах, на стартавых дарожках? Каб у баі, дык чорт вазьмі! Адзін раз маці радзіла! А цяпер — хто мы: лётчыкі ці зладзеі, якім захацелася малака? Ці валацужнікі, у якіх ад уцёкаў і голаду ўжо ногі папухлі?

Афіцэр аж закашляўся ад гэтага напліву горкіх рэфлексій. Палітрук не надта ж уважліва яго слухаў, але і не спыняў, бо сябар выказаў і яго пякучы душэўны боль. Ён і сам не мог зразумець, як усё гэта рухнула. Як беспамылкова нямецкія лётчыкі цэліліся сваімі бомбамі ў іх самалёты? Значыць, што і сярод іх, на аэрадроме, дзейнічала варожая агентура, нехта дастаўляў планы дакладнага размеркавання ўсіх аб'ектаў аэрадрома. Калі ў іх, дык і ў іншых воінскіх часцях і злучэннях магло быць таксама! Ад гэтай думкі рабілася яму халаднавата. Прадалі нас? Хто? За якую цану?

Каб ён тады ведаў, што ў першы дзень вайны на прыгранічных аэрадромах савецкая авіяцыя патраціла ад нямецкай бамбёжкі аж 1200 баявых машын, сярод якіх знаходзіліся навейшыя самалёты! 66 аэрадромаў перарылі сваімі бомбамі гітлераўскія лётчыкі. Асабліва пацярпеў заходні фронт, значыць, Брэсцка-Беластоцкі напрамак, дзе немцам удалося вывесці са строю 528 самалётаў на зямлі і 210 самалётаў збіць у паветры.

Гэтага, вядома, лётчыкі, схаваўшыеся ў лесе ля хутара пад вёскай Грыбаўцы, ведаць не маглі. Тады яшчэ гісторыя Айчыннай вайны толькі што пачыналася.

З хутара выбраўся на веласіпедзе нейкі хлапец. Палітрук рашыў выйсці, яму насустрач...

Але на сёння хопіць гэтых успамінаў. Прадаўжэнне — цераз тыдзень.

**Віктар Рудчык.**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Апаўночы на прыпечку
Малацілі мышкі грэчку.
З пагулянкі бег Прусак:
„Вы малоціце не так!“
Бэнц налева, бэнц направа
Увіхацца стаў рухава.
Так і сяк і наўскасяк
Па снапку лупіў Прусак.**

**Напалохаліся мышкі:
— Пераб'еш усе гладышкі!
Лепш ідзі, сусед, гуляй,
Працаваць не замінай!..**

**Не паслухаў памагаты,
Не падаўся ён дахаты,
Цэп — у кут, а сам — на сноп
І на ўздзіў усім захроп.**

**Мышкі вохкаюць, гаруюць:
Як ім збыць бяду такую?
Як падняць ім са снапка
Задаваку Прусака?**

**Прыбягае Таракан:
„Не вялікі тут ён пан!“
Ухапіў за лапы-ногі:
„Прэч, лайдачына, з дарогі!“**

**Цэп — аберуч і пайшоў
Малаціць снапок наноў.
Ды і ён мышэй не слухаў**




**Бічам біў-лупіў з-за вуха,
Трушчыў сподкі і глячкі
Макацёры і гаршкі...**

**Мышкі нанава гаруюць:
Як ім збыць бяду такую?**

**Тут з вячорак Цвыркунок
Скрыпку стомлена валок.
Мышкам ён паспагадаў —
Таракану марш сыграў.
Ну а потым як ударыў,
Як паддаў ён скрыпцы жару!
Заспявалі струны пчолкай,
Бас падчас чмяліхай бомкаў,
Сам — прытупваў на саломе,
Дзе падзелася і стома!
Аж звінелі чарапкі —
Во ігрэц ён быў які!**

**Ды сказалі мышкі строга:
— Тут не клуб табе, нябога,
І не сцэна на прыпечку —
Дамалочваць трэба грэчку!**

**Цвыркунок нібы ачнуўся —
За суседам пацягнуўся.**

**Ну а мышкі? Ды цапамі
Змалацілі грэчку самі!
Самі потым круп надралі,
Кашы смачнай згатавалі,
Мышанятак накармілі,
Шчэ й суседзяў надзялілі.**

**І як бабка Домна ўстала —
На прыпечку ціха стала.**

**Яраслаў Пархута**

**Рыгор Мароз**

## АГАРОДЧЫК

У наш агародчык завітала вясна. Зялёная траўка пакрыла зямлю. Яблыні і грушы вось-вось зацвітуць.

Усё вакол ажывілася. Расці пачало. А ўсю зіму і дрэвы, і корчыкі стаялі насупіўшыся. Чакалі вясны.

— Мы з дзедкам сваё ўжо зрабілі, — кажу я сябрам. — У нас парадак навокал. Заграблі. Замялі. Салому спалілі, якою абвязвалі дрэўцы ўвосень. Хоць я дзеду казаў: навошта гэта было? Дарэмная работа. Увосень абвязвай — вясною збірай! Ці не прасцей не рабіць гэтага? А ён толькі нахмурыўся і пытае:

— А чаму ты на зіму кажушок нацягваеш?

— Каб цяплей было, — кажу.

— Вось і дагаварыліся, — адказаў ён мне. — Так і дрэвы. Памагаць ім трэба, каб зіму прастаялі.

— Яны ж не жывыя, — кажу паціху.

— А што ён табе на тое? — пытаюць сябры.

— Як жа — не жывыя! — кажа. — А чаму, скажы, лісточкі выпускаюць?

— Бо вясна, — кажу. — Сонейка свеціць. Цёпла стала.

— Падзякуй, што не замерзлі ўзімку, — кажа. — Што цяпер ажылі. І не ўбачыш, калі асыплюцца квеццем. Выглядаць будуць, як хтось іх малаком абліў. Памятай! Дрэвы таксама жывуць.

(Працяг на стар. 10)



**Найлепшыя спартсмены са школы ў Белавежы. Займаюцца яны рознымі дысцыплінамі, асабліва любяць лёгкую атлетыку і гульні з мячом. Кіруе імі малады настаўнік Войцех Гутоўскі.**
**Фота Я. Чэрнякевіч.**

**ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ**

## УДЗЕЛУ Ў АПЕРАЦЫІ НЕ ПРЫМАЛІ

Вяртаючыся ў гарнізон, унтэр Ганс Фогель летуценна ўсміхнуўся.

Ціха тут, у Заямным, спакойна. Мірна пашумліваюць над стрэхамі хат старыя ліпы і клёны, перасвістваюцца ля сваіх домікаў самавітыя шпакі, рассыпаюць у высокім небе серабро нястомныя жаваранкі.

Ні стрэлаў, ні выбухаў, хаця на зямлі ідзе вайна. Жорсткая, кровапралітная. Ды яна недзе далёка адсюль, там, на ўсходзе. А тут, у Заямным, яны, немцы, адчуваюць сябе нібы на курорце. У бой ісці не трэба, яды хапае, сытнай і рознай. Заходзь у любы двор і выбірай што хочаш: ці то цялушку, ці свінчо, ці з дзесятак курэй, нарэшце. А памідоры якія, гуркі, бульба ў Заямным! Такой смакаты ў сваёй Германіі яны даўно ўжо не спытвалі, бо фюрэр загадаў прадукты кансерваваць, рабіць запас для арміі. Толькі ж і дурню вядома, што нават самая лепшая кансерва не можа замяніць свежы прадукт.

Шкада, праўда, што гэтых свежых прадуктаў становіцца ўсё меней і меней. Можа яны, немцы, занадта ўжо шчыруюць, а можа, людзі і сёе-тое хаваюць. Але нічога, пакуль вайна не скончыцца, а скончыцца яна даволі хутка, бо так сказаў сам фюрэр, і невялікаму гарнізону ў трыццаць чалавек усяго хопіць.

І работа ў іх не цяжкая. Не франтавая работа, а можна сказаць, курортная — збіраць у наваколлі, на месцах, дзе былі баі, зброю і ваенную тэхніку. Заўсёды на вольным паветры, заўсёды працуеш колькі хочаш, а не колькі загадаюць. Ніхто ў шыю не гоніць. Не ўправішся праверыць адпаведны ўчастак сёння, праверыш заўтра, а то і паслязаўтра. Прывёз у гарнізон дзве-тры ломаныя вінтоўкі, і дзякуй Богу.

Словам, не жыццё ім тут, у Заямным, а маліна. І нават смешна робіцца, калі некаторыя загаворваюць пра нейкіх там лясных бандытаў — партызан. Быццам бы яны і машыны ўзрываюць, і засады робяць, і эшалоны пад адхон пускаюць.

Магчыма, дзе-нідзе і было ці ёсць такое, толькі не ў Заямным. Лес адсюль далёка, аж на краявідзе. Калі і ёсць там які ўзброены дзівак, то нізавошта не адважыцца сунуцца ў нямецкі гарнізон. Мясцовасць вакол Заямнога праглядаецца як на далоні, поле чыстае, роўнае, без адзінага кусціка. Толькі з аднаго боку падступае да вёскі яр. Ды і ён не глыбокі, густы, парослы хмызам — не прадзярэшся.

А пра тое, што партызаны могуць быць у самой вёсцы, і думаць не варта. Усіх жыхароў мужчынскага полу можна на пальцах пералічыць. Гэта або сівабародыя дзяды, або смарка-

(Працяг на стар. 10)

З „Малой студэнцкай энцыклапедыі“

## РЭКТАР

Між іншым, яшчэ зусім нядаўна, нейкіх дзве тысячы гадоў назад, у Старадаўнім Рыме рэктарам зваўся не кіраўнік вышэйшай навуковай установы, а — рулявы карабля.

А яшчэ праз тысячагоддзе вось так пачціва сталі называць галоўнага настаўніка, які ўзначальваў шматкласную школу. Шматкласную, але не вышэйшую.

І толькі ў XII стагоддзі, са з'яўленнем першых універсітэтаў лацінскае слова „рэктар“ (кіраўнік, правіцель) набыло сучасны змест, які студэнтам растлумачваць не трэба. А выкладчыкам — тым больш.

Сапраўдны рэктар — гэта вопытны і шматпакутны рулявы, які пільна вядзе свой інстытуцкі (універсітэцкі, акадэмічны і г.д.) карабль нялёгкімі маршрутамі вышэйшай асветы. Вядзе, намагаючыся абмінуць мялізны ды рыфы, якіх, на жаль, нямала на шляху кожнага вузаўскага судна. А паколькі судна не рухаецца безупынна (ледзь спавальняючы ход толькі ў час канікул), — рэктар не выпускае руль ані ўдзень, ані ўначы.

— Але ж гэта немагчыма! — скажаце вы.

Так, было б немагчыма. Калі б рэктару не дапамагалі самаадданыя прарэктары ды дэканы, выпрабаваныя педагогі, бескампрамісная грамадскасць і, вядома, — шматлікія і неўгамонныя матросы — студэнты. Дык які ж гэта карабль — без матросаў!

Вузаўскае судна плыве наперад нават у найнеспрыяльных метэаралагічных умовах. Плыве, мужна змагаючыся з мясцовымі бурамі (на ўнутраных морах), і штормамі на адкрытым акіяне... Бо сапраўдны рэктар — гэта не проста рулявы, а стырнавы і капітан у адной асобе!

Ю. Шанін









## МОЦНЫ ЧАЙ

Увечары Рома піў чай. Зайшла суседка, глянула на шклянку і зрабіла заўвагу маці:

— Перад сном не рэкамендуецца даваць дзецям такі моцны чай.

— Чаму? Ад моцнага я сам мацней буду, — адказвае маленькі Рома.

## ЧЫЯСЬЦІ ІНШАЯ

— Андрэй, гэтай ночы мне прыснілася твая жонка.

— І што ж яна табе расказвала?

— Уяві сабе, маўчала.

— Значыць, гэта была не мая жонка.

## КОЖНАМУ СВАЁ МЕСЦА

— Чаму коцішся ніжэй і ніжэй?

— Не ўсім жа быць скалалазам, ёсць жа і спелеолагі.

## ТАЯМНІЦА

На беразе ракі сядзіць хлапец, апусціўшы палец рукі ў ваду. Міма праходзіць дзядзька.

—Што робіш, хлопча?

— Таямніца. Але калі дасце сто злотых, то скажу.

Шкада дзядзьку грошай, але, урэшце, цікавасць перамагла. Даў ён хлопцу сто злотых.

— Гэта я ваду грэю, каб рыбе было цяплей.

— Цю, дурань, — сплюнуў дзядзька.

— Дурань ці не дурань, а ў кішэні ўжо семсот злотых заробленых.

## СЯРОД ВУЧОНЫХ

— Пазнаёмцеся з маёю працай, — просіць д-р Даследчыцкі свайго шэфа праф. Паслядовіча.

— Добра. Пакіньце і можаце сябе лічыць сааўтарам, — парадаваў шэф.

**Лёгка пайшоў на дно, бо трымаў камень за пазухай.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

„Выканай, не адкладваючы на заўтра!“ — плакаты з гэтым заклікам гаспадар вялікай фірмы загадаў развесіць на відных мясцах, каб служачыя больш эфектыўна працавалі. Праз некалькі дзён сябар спытаў яго, як рэагаваў персанал фірмы на яго заклік.

— Зусім не так, як я разлічваў, — адказаў той. — Касір тут жа ўцёк, прыхапіўшы сто тысяч крон, кіраўнік знік з маёй сакратаркай, а шэсць служачых патрабавалі павысіць зарплату...

*

— Колькі будзе трыццаць памножыць на пяць? — экзаменуе дырэктар рэстарана наймаючагася ў афіцыянты.

— У якой кампаніі, у які час, а таксама што бралі перад гэтым? — задае сустрэчнае пытанне экзаменаваны.

— Вы прыняты!

*

— Што больш за ўсё здзіўляе? — рытарычна спытаў філосаф.

Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:

— Людзі! Ёсць людзі, язык якіх разумнейшы за іх саміх.

## НАШ КРЫК

Каб мы калі каму
Хоць што якое...
Але ж мы
Ніколі
Нікому
Нічога
Ніякага...
То нашто нам такое!
Хоць можа яно і будзе лепей.
Ды хто яго ведае.

Дратва

З „Весніка Задрыпонії“

## НОВАЕ У ЗВЫШПРАВОДНАСЦІ

Кантралёр Хведар Хаванюк, які стаяў у варотах цэнтральнага стадыёна, правёў учора на стадыён сто семдзесят чалавек без білета.

## АБВЕСТКА

Мяняю нявыгадныя жыццёвыя прынцыпы на жыццёвыя выгоды.

З чаго смяюцца суседзі.






— Не бойцеся, у тым пакоі ў дзяцей жывы куток!




Не паспелі за гаспадаром.

## Курёзы

## НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРАФЕСІЯ

У г. Салеме (штат Масачусетс) мясцовыя ўлады, клапоцячыся аб беспрацоўных жанчынах, дазволілі адкрыць школу... вядзьмарак. Справа ў тым, што калісьці, яшчэ ў XVII стагоддзі, тут былі асуджаны на смяротнае пакаранне больш за дваццаць чалавек-чараўніц. Чаму ж не ўспомніць добрым словам тых даўніх пакутніц і не адрадзіць іх цікавыя традыцыі? Тым больш, што ў ЗША зараз у вялікай модзе і пашане варажба, прадраканні, заклінанні і г.д. Паводле паведамлення часопіса „Ю. С. ньюс энд Уорлд Рыпорт“ у краіне дзейнічае толькі 10 тысяч усемагчымых астролагаў, якія бяруць за кансультацыю да 300 долараў. Можна браць і значна больш, бо для кожнага астролага прыходзіць за тыдзень да 35 кліентаў і нават сам гаспадар Белага дома Рональд Рэйган звяртаецца іншы раз да паслуг варажбітак. Плаціць у школе вядзьмарак за пяцітыднёвы курс навучання даводзіцца не так ужо і многа — 125 долараў. Затое ж якая незвычайная і папулярная прафесія!..




**Не шкадуйце Сізіфа, яму яшчэ пашанцавала. Уявіце, што яму давялося б яшчэ пісаць справаздачы аб праведзенай працы.**